Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 13 Субота 7 Ліпня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5,

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Дэкларацыя Маршалка Пілсудзкага.

Самахотны адыход Маршалка Пілсудзкага са становішча прэм'ера пасьля таго, як Сойм і Сэнат засталіся распушчанымі на летнія вакацыі, зьявіўся для ўсіх поўнаю неспадзянкаю, выклікаўшай цэлы шэраг меркаваньняў. Невядома было, чым вытлумачыць гэты крок Маршалка Пілсудзкага: яго станам здароўя, ці новым кірункам дзяржаўнай палітыкі.

І толькі асьвядчэньне самаго Маршалка Пілсудзкага, зробленае ім у нядзелю 1 ліпня прадстаўнікам сталічнай прэсы, палажыла крэс усім дагадкам. Маршалак катэгарычна запярэчыў выражаным вышэй меркаваньням, выставіўшы тыя прычыны, якія схілілі яго часова зложыць з сябе абавязкі прэм'ера, застаўляючы аднак-жа за сабою кіраўніцтва вонкаваю палітыкаю і ваеннымі справамі.

Прычына яго адыходу крыецца выключна у канстытуцыйным строі, з якім Маршалак ніяк ня можа пагадзіцца.

Канстытуцыя 17 сакавіка, прэдугледжваючы, што прэзыдэнтам будзе безумоўна выбраны Маршалак Пілсудзкі, дзеля гэтага, пазбавіўшы ўсякага права Прэзыдэнта Рэспублікі, выклікае сталы антаганізм між законадаўчымі і выканаўчымі органамі дзяржаўнае ўлады. І ў той час, як Прэзыдэнт Рэспублікі і прэм'ер дзякуючы гэтаму зусім зьвязаны ў сваей дзейнасьці і творчай ініцыятыве, Сойм адмаўляецца ад супрацаўніцтва з урадам, трацячы увесь час на бясплодную дэмагогію і барацьбу з Урадам.

Далей Маршалак у самых моцных выразах і словах зрабіў строгую ацэнку дзейнасьці як папярэдніх, гэтак і новага Сойму, на якога ён не пакладае больш ніякіх надзеяў.

Дзеля гэтага цяперашні Сойм і не быў дапушчаны пасьля прыняцьця бюджэту да дыскусіі над іншымі пытаньнямі. Маршалак спадзяецца, што можа за час летніх вакацыяў апазыцыя Сойму ўцяміць сабе ўсю безкарыснасьць сваей цяперашней пазыцыі і нарешце апамятаецца і ўступіць на шлях творчае супольнае працы з Урадам, калі ня хоча перацягваць і бяз гэтага вельмі напружаную струну.

Толькі ў надзеі на гэтыя зьмены ў сьвядомасьці і настроі соймавай апазыцыі Маршалак не рашыўся на новы дзяржаўны пераварот і зьмену Канстытуцыі, што мог зрабіць без вялікіх высілкаў, — а найшоў лепшым сам уйці са становішча прем'ера, даверыўшы часова кіраўніцтва ўнутранаю палітыкаю свайму заступніку віце-прэм'еру Бартэлю, а сабе пазаставіўшы кіраўніцтва заграничнаю палітыкаю і арміяй.

Пры гэтым запэўніў Прэзыдэнта Рэспублікі, што ў выпадку цяжкага крызысу зноў стане да яго дыспазыцыі, як Старшыня ўраду, сьмела ўзяўшы на сябе неабходныя рашэньні і адказнасьць за выцякаючыя з іх вынікі.

# Дзьве ўрачыстасьці беларускага мастацтва.

У зьвязку з угодкамі заснаваньня свайго народнага тэатру, які фактычна больш, як паўгода быў бяздзейным, а для віленскага грамадзянства даў за гэты час толькі адзіны спэктакль „Паўлінку“, Інстытут Гаспадаркі і Культуры наладзіў у сваім уласным памешканьні на Вострабрамскай вул. № 8 у дню 16 чэрвеня спэктакль-вячарыну. Гралі п'есу „Хам“ Э. Ожэшко — пераклад з польскага.

Невялікая, але ўютная саля, маленькая сцэна і вялікая драма жаноцкае душы на спэне, а галоўнае доўгая адсутнасьць і нуда па беларускаму спэктаклю сабралі шмат публікі. Між іншымі беларускімі дзеячамі былі прысутнымі паслы: Ф. Ярэміч, Стэповіч, сэнатар Багдановіч, унявінены ў працэсе „Грамады“ Р. Астроўскі, дырэктар Вілен. Бел. Гімназі Паўловіч, ксёндз А. Станкевіч, рэдактар „Грамадзяніна“ Т. Вернікоўскі, пісьменьнікі, публіцысты, супрацоўнікі беларускае прэсы з „Сялянскай Нівы“, „Biel. Krynicy“, „Грамадзяніна“, „Белар. Раднага“, „Маланкі“ і радыкальнага кірунку. Было шмат вучцялей, студэнтаў і вучняў. Ад польскага грамадзянства — прафэсар Віленскага унівэрсытэту М. Зьдзехоўскі, пасол ад „адзінкі“ Рачковіч і іншыя. Былі прадстаўнікі і ад літоўскага і жыдоўскага грамадзянства.

П'еса прайшла гладка. Адказныя ролі — Пронкі і Паўлюка былі выканаваны п. Ф. Більдзюкевіч і А. Лабанам адпаведна. Каму дадзена „іскра Божая“, трэба разьвіваць яе, і хай пані Більдзюкевч не закідвае свайго дару. З рэшты вучасьнікаў лепш ад іншых іграла Э. Залкінд.

Хор пад кіраўніцтвам А. Чайкова, хоць і нявялікі, добра наладжаны, ў прыгожых нацыянальных вопратках, рабіў уражэньне найлепшае і выканаў свае нумары добра.

Пасьля спэктаклю і хору пад гукі „Лявоніхі“ распачаліся скокі, якія зацягнуліся далёка за паўноч.

На другі дзень, 17 чэрвеня ў Беларускай Гімназыі на карысьць адбудовы Дому Беларускае Культуры адбыўся канцэрт Славянскай Песьні, выкананы вучнямі і вучцялямі гэтае гімназыі. Канцэрт складаўся з 4 аддзелаў — польскага, расейскага, украінскага і беларускага.

Перад распачацьцем канцэрту прафэсар Галкоўскі ў пекнай беларускай мове прачытаў рэфэрат аб песьні—„выразіцельніцы душы народа“. Выкананьне хора як найлепшае, а калі дадаць да гэтага добры падбор рэпэртуару, агульную наладжанасьць і добрую арганізаванасьць, дый яшчэ сьвежыя прыстасаваныя да кожнага аддзелу дэкарацыі, а галоўнае ўдалае, а мо' фаховае кіраўніцтва прафэсара кансэрваторыі Галкоўскага, які і сам добры дэклямататар, кампазытар і акампаньятар, дык зусім ня дзіва, што агульнае ўражэньня было захапліваючае і прысутныя расходзіліся вельмі задаволянымі.

Што датычыць матэр'яльнага боку, дык паўнюсенькая, хаця і ня малая гімназыяльная саля — выказвалі, што заклік Пакуковага Таварыства знайшоў адгук у віленскім грамадзянстве і гэты першы пачын на фундамант „Дому Беларускай Культуры“, трэба спадзявацца, паложыць пачатак далейшым захадам у гэтым кірунку, якія побач матэр'яльнай карысьці ўнясуць і струю аб'яднаньня, даўно адчуванага самім грамадзянствам.

Сярод прысутных беларускіх дзеячаў можна было заўважыць усіх тых, якія былі і на спэктаклю ў Інстытуце Гаспадаркі і Культуры. Ціха і няпрыметна адсутнсаваў, як тамака, гэтак і тут пасол Янка Станкевіч.

Не было і Антона Луцкевіча, які, відаць, па слабасьці здароўя яшчэ не аправіўся ад вастрожнага рэжыму.

З агульна добрага рэпэртуару беларускага аддзелу трэба адцяміць арыгінальную кампазыцыю „калыханкі“, п. Шырмавай.

Вучнёўскі духавы аркэстр сваей наладжанасьцю і зыгранасьцю робіць уражаньне праўдзівага аркэстру.

*Г. К.*

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Сялянская Ніва“ ў № 32 зьмяшчае прамову пасла Ф. Ярэміча на наседжаньні Сойму ў дню 1 чэрвяня. У справе школьніцтва ён між іншым казаў:

> Ці не зьяўляецца гэта ў запраўднасьці недарэчнасьцю, каб такі народ, як Беларускі, народ двух з палавінаю мільёнаў, да сёньняшняга дня ня меў школы. Ня маем аніводнае вучыцельскае сэмінарыі ня толькі дзяржаўнае, але-ж нават не дазваляюць нам адчыніць прыватную сэмінарыю. Ня маем аніводнае дзяржаўнае гімназіі, маем тры прыватныя гімназіі, якім не даюць публічных правоў.
>
> Калі хочам адчыніць прыватную школу (урад ня выдае на гэта грошай), але кажа інспэктар: „добра, згаджаемся, але-ж прашу прадставіць мне кандыдатаў на вучыцялёў“. Кандыдатаў прадстаўляюць. І вось было гэтакае здарэньне, што мы прадстаўлялі 12 кандыдатаў і ніводнага не зацьвердзілі; аднаго з прычыны кваліфікацыяў, другога з браку пасьведчаньня аб маральнасьці ці „благонадежности“, не зважаючы на гэта, тыя самыя вучыцялі былі прынятыя інспэктарам, але-ж у польскія школы.
>
> За часоў нямецкіх мелі мы 201 пачаткавую школы, за часоў Сярэдняе Літвы мелі мы толькі на Віленшчыне 400 школаў, а сёньня маем дзьве пачатковыя прыватныя школы, якія ўтрымлівае Беларускі Інстытут Гасп. і Культуры, бо 57 быццам утраквістычных школаў, якія нібы ёсьць, але яны зьяўляюцца ў запраўднасьці не утраквістычны, а проста—польскімі школамі, бо спэцыяльна да ўтраквістычных школаў прысылаюць вучцелёў-палякаў і то з Галіцыі, каб ня ведаў ані воднага беларускага слова.

„Зара Працы“ у № 9 у перадавіцы „Дзе лекарства“, абгаварываець справу стварэньня польска-беларускага „спадароўскага зьвязу“, які меўся эканамічна вырашыць балючае бела-

рускае пытаньне, кажа, што гэта не лекарствы, ну і як належыцца радыкалам, бачуць лекарства толькі ў саюзе з работнікамі і сялянамі ўсіх нацыянальнасьцяў і ў барацьбе з буржуазыяў.

Відаць „дактары“ з „Зары Працы“ больш сыхіляны ўжываць толькі „нашэптаваныя“ сьродкі з фірмы „інтэрнацыянала“, а не тыя лякарства, якія патрабуе арганізм хворага.

Далей, гаворачы аб арганізацыі Акружной Управы Т-ва Бел. Школы на Бараніцкі павет, „Зара Працы“ піша:

„Калі ўспомнім, што Баранавіцкі павет і самае места лічыліся амаль не фальваркам прайдзісьветаў і гастралераў, ласых на лёгкую пажыву коштам народу. Тут грасавала паўлюкевічаўшчына, тут і па сёньняшні дзень сіляцца рабіць агідную працу, зьбіваючы моладзь са свайго культурна-адраджэнскага шляху, але-ж маса народная спакойна, моўчкі пераступіла праз авантурнікаў розных гатункаў і ў сваіх цяжкіх ад мазольнай працы буднях перайшла да парадку дня, да арганізацыі управы Т-ва.

І толькі пан Назарэўскі (бо „беларускі“ сэнатар) пагражае падняць (ці ня разам з Паўлюкевічам?) нябошчыцу „Прасьвету“...

Ці-ж гэта такое вялікае блага для беларусаў, калі п. Назарэўскі (хаця-б нават разам з Паўлюкевічам) „пагражае падняць нябошчыцу“ „Прасьвету“ і ў Наваградзкім ваяводзтве?..

„Беларускі Дзень“ у № 24 у перадавіцы „Першая матура“ між іншым піша.

Мы з вялікай радасьцяй ад значым гэтую першую матуру, як вялікі крок на шляху паразуменьня паміж польскім народам і дзяржаўнасьцяй польскай і беларускім народам. Атрымаўшыя матуру беларускія вучні ня будуць кінуты ў абоймы дзікае прапаганды процiў польскае дзяржаўнасьці ў С. С. Р Р., бо яна ім прызнала правы грамадзянства ў вялікай сям'і вучнёўскае рэспублікі ўсей моладзі польскіх вышэйшых школаў, як роўныя з роўнымі

Сваіх першых матурыстаў і мы вітаем.

„Bielaruskaja Kryniсa“ у № 37 усю першую старонку пасьвячае Жодзішкам, а галоўнае справе беларускае мовы ў касьцеле і дзейнасьці ксендза Дроніча

У перадавіцы „Жодзішкі Гарой“ яна між іншым піша:

Аб Жодзішках ёсьць што гаварыць і пісаць. Змаганьне за беларускую справу на столькі тут вялікае, што можа яно быць прыкладам для іншых.

Глыбокая народная сьведамасьць, стойкасьць у змаганьні за свае правы сапраўды годныя дзіва і пашаны. Гэта ўсё гавора аб вялікай жывучасьці нашай вёскі і аб тым, што яна на дарозе да свайго народнага і грамадзянскага вызваленьня. Мыляюцца усе тыя, якія яшчэ сяньня не дацэніваюць адраджэньня беларускага народу.

Далей яна кажа, што 15 чэрвеня адведаў Жодзішкі Арцыбіскуп Віленскі, які, маючы пры сабе просьбу жыхараў Жодзішак да Папскага Нунцыя ў справе беларускай мовы ў касьцеле, спраўдзіў гэта на месцу. Усе пакліканыя не адмовіліся ад сваіх подпісаў, і дзеля гэтага „Bel. Kryniса“ спадзяецца, што Арцыбіскуп, „пранікнаўшыся сам у праўдзівай волі народу, займе адносна беларусаў справядлівае становішча“.

Мы з свайго боку жадаем жодзішканцам пасьпеху ў іхніх змаганьнях за праўду і справядлівасьць.

Аб першых беларускіх матурах „Biel. Kryniса“ піша:

Сёлетнія матуральныя экзаміны ня мала прынясьлі пацехі, радасьці, як бацькам і апякуном матурыстаў, так-жа і для беларускага грамадзянства.

# Палітычная хроніка.

## Рэканструкцыя Ураду.

З уходам маршалка Пілсудзкага са становішча прэм'ера, прэмьерам назначан б. віцэпрэм'ер Бартэль і новымі міністрамі камунікацыі інж. Кун і асьветы д-р Сьвітальскі.

## Маршалак Пілсудзкі выяжджае на курорт у Румынію.

Маршалак Пілсудзкі намеран выехаць на курорт да Румыніі. Для гэтага ўжо зроблены адпаведныя падрыхтоўкі.

## Польска — літоўскія перагаворы ў Варшаве.

У Варшаву прыехала літоўская дэлігацыя дзеля перагавораў з Польшчаю ў справе пошты і камунікацыі. Перагаворы пачаліся у суботу 30 чэрвеня.

## Дымісія Юга — Слаўскага кабінэту.

У зьвязку з драмаю, якая разыгралася у Скупшчыне, Юга—Слаўскі кабінэт падаўся да дымісіі.

## Новы урад у Нямеччыне.

Прэзыдэнт Нямецкай рэспублікі назначыў канцлерам (прэм'ерам) Гэрмана Мюллера (сацыялісты), мін. заграніччных спраў Штрэзэмана і ўнутраных спраў сац. Сэверынга. У новым урадзе 4 партфэлі занялі сацыялістыя.

## Гэн. Нобіле уратавалі — Амундсэн згінуў.

Пасьля доўгіх высілкаў удалося гэн. Нобіле вывясьці на аэрапляне. Ён мае зламаную нагу.

Але згінуў бяз сьляда вядомы нарвэзкі бадач палярных стран Амундсэн, які вылецеў з французскім лётнікам на розыскі Нобіле і сам не вярнуўся. Не ўратованы яшчэ і калегі гэн. Нобіле, бо вылецеўшы за імі швэдзкі аэраплян Лундбэрга пры спуску разбіўся і авіятары засталіся разам з экіпажам сярод льдоў. Вось якога клопату нарабіў гэн. Нобіле сваім палётам на паўночны полюс. Цяпер рыхтуюцца экспэдыцыі для ратаваньня Амундсэна, Лундбэрга і калегаў гэн. Нобіле.

# Тутэйшая хроніка.

**— Інтерпэляцыя Беларускага Пасольскага Клюбу.** Пасол А. Стэповіч злажыў ад імя Беларускага Пасольскага Клюбу да міністра унутранных спраў інтэрпэляцыю у справе забароны Ашмянскім Старастай спэктаклю у гуртку Бел. Інст. Гаспадаркі Культуры у вёсцы Шутавічы Ашмянскага павету.

**— Прамова пасла Ярэміча.** На апошнім пасяджаньні Сойму прамаўляў між іншымі пасол Ярэміч, які дамагаўся расшырэньня амнэстыі на ўсе праступленьні да 3 мая 1928 году.

**— Ральнічая Краёвая Экскурсія да Пазнані і Памор'я.** З Віленскага ваяводзтва выехала 2 ліпня з Вільны Ральнічая Экскурсія дробных рольнікаў у ліку каля 30 асобаў, зарганізаваная Związkiem Kółek i Arganizacyj Rolniczych. Выдаткі на кошты падарожы вызначаны паасобнымі выдзяламі павятовымі і часткова Zw. Kół. Roln. Напрыклад Маладэчанскі выдзял павятовы вызначыў на 13 асобаў па 150 зл. Харчы павінны мець экскурсанты свае.

Экскурсія будзе трываць каля 2 тыдняў. Па дарозе застановіцца на нейкі час у Варшаве. Затым падрабязна адведае Пазнанскае ваяводзтва і Памор'е. Будзе ў Гданску і Гдыні. На чале экскурсіі стаіць п. Жукоўскі, прадстаўнік Kółek i Arhanizacyj Rolniczych.

Сярод экскурсантаў ёсьць уласныя карэспандэнты „Грамадзяніна" і „Беларускага Раднага", якія з дарогі будуць высылаць спэцыяльныя карэспандэнцыі аб сваей падарожы для названых часопісяў. Між іншым выехалі экскурсіяй сябры прэзыдыуму Акружной Рады „Прасьветы" на Віленшчыну п. п. Т. Сьвірыд і Ўсевалад Семашкевіч і сябра Гуртка „Прасьветы" Корсак.

**Беларусы у ваявуцскім рэгіанальным камітэце.** 25 чэрвеня адбыўся у Вільні пад старшынствот Ваяводы п. Рачкевіча арганізацыйны сход ваяводзкага рэгіональнага камітэту. Камітэт гэты дзеліцца на 3 сэкцыі: агульна—гаспадарчую, зямельную і культурна асьветную. У склад гэтых сэкцыяў уваходзяць між іншымі інжынер Лявон Цубейкоўскі і п. Умястоўскі.

**— Скандал у Віленскім Унівэрсытэце.** У мінулым месяцы сэнат унівэрсытэту Стэфана Баторага ў Вільні пастанавіў не ўзнаўляць кантракту з прафэсарам права К. Пэтрусэвічам, які выкладаў у мінулым акадэміцкім годзе цы-

---

Язэп Жыголоўскі.

## Падзеі ў Беларускім руху за апошнія 10 гадоў. *)

**I. Адносіны Расейскае Дэмакрацыі да Адраджэньня Беларусі.**

Пасьля Расейскае мартаўскае рэвалюцыі першымі загаварылі аб сабе Украінцы. Яны адразу пасьля мартаўскага пяраваροту арганізавалі „Цэнтральную Украінскую Раду" ў Кіеве і распачалі працу сярод войска.

Беларускі рух быў слабейшы за Украінскі і ён адразу не здолеў арганізавацца. З беларускіх палітычных партыяў больш менш ідэолёгічна была аформлена толькі „Беларуская Сацыялістычная Грамада", але і яна ня была яшчэ зусім беларускай, не зусім яна яшчэ ўяўляла сабе, якой мусіць быць Беларусь, — ці незалежнай, ці ў зьвязку з якою-небудзь іншаю дзяржаваю. У яе праграме быў зусім няшкодны для Масквы пункт аб фэдэрацыі народаў Расейскае Імпэрыі. А калі ўзяць тактыку БСР, то тут было яшчэ горэй. Яна была невыразнаю, ня вытрыманаю, ня сьпелаю. Нават у траўні 1917 года Ц. К. Беларускае Сацыяліст. Грамады прымае пастанову, каб ня вясьці нацыянальнае прапаганды ў войску за арганізацыю паасобных беларускіх вайсковых адзінак, бо гэта, як казала пастанова, „будзе разваль-ваць" адзіную расейскую армію, якая ўжо фактычна была разваляная. Як відаць хоць-бы з гэтага факту, сярод „Грамадзістаў" 1917 г. у большасьці былі людзі, якія ня ўцямілі сабе самастойнага істнаваньня Беларусі.

Пры гэтым вельмі цікава адзначыць, што гэтыя патрыёты адзінае расейскае арміі Мілюкова і Керэнскага потым сталі балшавікамі. Гэта вельмі цікава таму, што Ленін у траўні ўжо вёў шалёную агітацыю за развал арміі. Каб не вярнуцца зноў да гэтага характэрнага факту, між іншым адзначым, што ён сьведчыць аб *нясьпеласьці беларускага бальшавізму*, *аб яго штучнасьці і бяз'ідэйнасьці*, або яшчэ горш — аб палітычнай і нацыянальнай яго несьвядомасьці. Беларускасьць іх і цяпер праз 10 гадоў стаіць пад вялікім знакам запытаньня.

Гэта выразная арыентацыя на ўсход была першаю адзнакаю слабасьці і нясьпеласьці тагочаснае беларускае думкі, была першаю памылкаю „Грамадзістаў" 1917 году, за якую беларускі народ мусіць дорага плаціць і цяпер, бо ўсе далейшыя памылкі беларусаў за час расейскае рэвалюцыі ад іх паходзяць.

І зусім іншы абарот, іншыя формы мог-бы

*) З матэр'ялу, атрыманага нашай Рэдакцыяй аб Беларускім руху за апошнія 10 гадаў, аўтар якога, укрыты пад псеўдонімам Язэпа Жыгалоўскага, як сам актыўны ўчасьнік гэтага руху, дае аб'ектыўны агляд адносінаў да адраджэньня Беларусі як саміх беларусоў, гэтак і іншых народнасьцяў, з якіх складалася дарэвалюцыйная Расейская дзяржава.

вільную працэдуру, з тае прычыны, што праф. Пэтрусэвіч... быў адным з тых адвакатаў, якія баранілі абвінавачаных у працэсе Грамады Антона Луцкевіча і Радаслава Астроўскага. Гэтакім чынам сэнат унівэрсытэту дзеля палітычных прычынаў папросту выкінуў аднаго з най. выдатнейшых прафэсароў і знаўцаў цывільнага права. Нячуваны гэты факт выклікаў зразумелае абурэньне і зьдзіўленьне у польскім і беларускім грамадзянстве, у выніку чаго сэнатскі клюб ППС злажыў да міністэрства Народнае Асьветы адпаведную інтэрпэляцыю.

**— Дэлегацыя прадстаўнікоў беларускага сярэдняга школьніцтва у Наваградскага ваяводы Бэчковіча.** 12 чэрвеня Наваградзкі Ваявода п. Бэчковіч прыняў дэлегацыю ад беларускіх гімназыяў, з якой адбыў нараду ў справе беларускага сярэдняга школьніцтва У склад дэлегацыі ўваходзілі: ад Віленскай беларускай гімназіі б. дырэктар яе Р. Астроўскі і ад Наваградзкай грам. П. Скрэбец і М. Чатырка.

**— Новая праваслаўная хадэцыя.** Сьвяшч. Коўш мае пачаць ізноў арганізаваць бесарускую праваслаўную хрысьціанскую дэмакрацыю.

**— Справа пасла Стагановіча у рэгулямінавай камісіі Сойму.** 14 б. г. рэгулямінавая камісія Сойму разглядала прапазыку Беларускага Работніцка-Сялянскага Клюбу аб спыненьні сьледства проціў пасла Стагановіча, які нядаўна арыштаваны. На прапазыку маршалка папярэдняга Сойму Ратая камісія адкінула прапазыку аб звальненьні пасла Стагановіча з вастрогу.

**— Прыезд Максіма Гарэцкага** У хуткім часе прыедзе ў Вільню з Менска вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. Гарэцкі з'яўляецца адным з найлепшых знаўцаў беларускае літэратуры і напісаў у 1919 годзе у бытнасьць сваю ў Вільні гісторыю яе, якая да гэтага часу уважаецца за найлепшы падручнік дзеля вывучэньня роднае літэратуры. Гарэцкі быў выселены з Вільні разам з 33 беларусамі у 1921 годзе ў Літву. Ён даўгі час вучыў у Латвіі і толькі ў 23 годзе пераехаў у Менск.

**— Пахаваньне сьв. п. гр. Арэхвы.** 11 чэрвеня на праваслаўным магільніку Бэліны у Вільні пахавалі памёршага нядаўна каапэратара — беларуса Лукаша Арэхву. За труной памёршага ішло шмат народу зароўна з беларускага грамадзянства, як і з працаўнікоў каапэрацыі. У часе працэсіі іграў вучнёўскі аркестр Віленскай Беларускай гімназіі. На магільніку з прамовамі выступалі прадстаўнікі каапэратыўных установаў Ясінскі (ад палякоў), Будзька і К. Крук (ад беларусоў).

**— З'езд Т-ва Беларускай Школы у Наваградку.** 24 траўня адбыўся ў Наваградку з'езд Т-ва Беларускай Школы. Былі заслу-

---

прыняць беларускі рух, каб адразу беларусы *зьеярнулі ўвагу на войска і па прыкладу палякоў* зарганізавалі сваю ўласную армію. Нажаль гэтага не сталася, і гэта прадрашыла тое, што Беларусь яшче цэлы этап гісторыі мусіць быць заезнай хатай.

Але ня гледзячы на такую невыразнасьць і безпраграмовасьць БСГ, народныя гушчы інстынктам адчувалі патрэбнасьць свае ўласнае збройнае сілы і вайсковае арганізацыі. І ў той час, як расейскія дэмакратычныя партыі (эсэры, меншавікі і кадэты) вялі заўзятую барацьбу з БСГ і наагул з беларускім рухам у Менску, спрытна выкарыстоўваючы ўдзел пана Скірмунда і княгіні Радзівіл у матэрыяльнай дапамозе беларусам,—тая сярмяжная Беларусь, якая была ў войску, пад некаторым уплывам украінцаў, хоць і позна, але пачала арганізавацца. І вось паўстае першая вайсковая арганізацыя ў Рызе.

24 чэрвеня быў скліканы першы зьезд вайсковых беларусаў і гэты зьезд залажыў „Беларускі Вайсковы Камітэт“ XII арміі, мэтаю якога згодна з ухваламі зьезду, было вясьці культурную і арганізацыйную працу сярод беларусаў. Камітэт паўстаў. Але як аднесьліся да гэтага камітэту расейскія дэмакраты *і расейскія сацыялісты розных калёраў?* Каб камітэт мог распачаць працу, трэба было яго легалізаваць у камісара арміі. Камісарам тады быў сацыяліст меншавік Войцінскі. Дэлагацыя беларускага вайсковага камітэту рашыла пайсьці да яго, каб прасіць аб легалізацыі. Калі прыйшла дэлегацыя, то ў гэты час як раз прыехаў камісар паўночнага фронту, таксама сацыяліст Станкевіч, які потым быў камісарам стаўкі Керэнскага.

Беларуская дэлегацыя была прынята Войцінскім і Станкевічам, і калі зайшла размова аб легалізацыі беларускага камітэту, дык той і гэты адразу паказалі свае зубы, заявіўшы:—„Никаких белорусов нет. Это выдумка кучки интеллигенции и польских панов. Не можем допустить организации каких-то беларусов, которые будут разлагать единую русскую армию!“.

Дэлегацыя выйшла ад паноў Войцінскага і Станкевіча ні з чым.

Наагул вельмі характэрнымі зьяўляюцца для першага этапу рэвалюцыі мэтады агітацыі расейскіх партыяў проціў беларусаў. Рух беларускі, як бачым, сацыялістыя Войцінскі і Станкевіч кваліфікуюць, *як выдумку кучкі інтэлігэнцыі і польскіх паноў.* І гэта ня было выняткам. У Менску, дзе барацьба паміж беларусамі і расейцамі насіла штодзенны характар і вынасілася на трыбуну, расейскія партыі зачапіліся за пана Скірмунда і княгіню Радзівіл, як за якар „збавеньня“ і на ўсіх дарогах, на ўсіх мітынгах дэмагагічна крычалі, што наш рух — гэта панскі, выдуманы панамі і г. д.

Левым беларускім групам было цяжка адбівацца ад такой дэмагогіі расейцаў. І калі ў ліпні месяцы быў скліканы зьезд беларускіх арганізацыяў, які выбраў Ц. Раду беларускіх

ханы справаздача часовае Управы Т-ва, даклады з мейсц і выбрана заўсёдная управа ў складзе: Логаша Мікалая, Пронькі Вячэслава, Валько Ганны, Пратасэвіча Язэпа і настаўніка Навагрудзкай Беларускай гімназіі А Данілевіча. Даклад аб працы Т-ва на будучыню зрабіў прадстаўнік Галоўнае Управы Т-ва грам. Шырма.

На з'ездзе былі прыняты рэзалюцыі: 1) прыняць вучасьце у зьбіраньні ахвяраў на будову „Дому Беларускай Культуры." 2) прывітаць звольняных з вастрогу па суду культурных работнікаў — Анг. Луцкевіча, як старшыню Беларускага Навук. Т-ва, Р. Астроўскага, як б. старшынёю Т-ва Беларускай Школы і Шнаркевіча як сэкрэтара

Пасьля з'езду адбыўся спэктакль, ладжаны вучнямі Навагрудзкай Беларускай Гімназіі. Праграму спэктаклю складалі „Апошняе Спатканьне" — Галубка, хор пад кіраўніцтвам грам. Шумскага і аркестр.

Трэба з задаваленьнем падкрэсьліць, што з'езд прайшоў у выняткова дзейнай атмасфэры, быў пазбаўлены якіх-бы то ні было палітычных мамэнтаў, і нават асабістых. Што гэта? Ці не пачатак санацыі? Дай Божа!

**Канфіскацыя „Зары Працы"**. 27 чэрвеня па загаду Віленскага Староства сканфіскаваны № 8 часопісі „Зара Працы "за зьмяшчэньне пра мовы пасла Ф. Валынца, якую ён сказаў на апошнім паседжаньні Сойму. Рэдактар часопісі пацягнуты да судовае адказнасьці.

**100.000 залатых на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак.** Міністэрства Грамадзкіх Работаў асыгнавала на ліпень 100 тысячаў зал. на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак у Навагрудзкім ваяводстве.

**Будова праваслаўнай царквы у Баранавічах.** Камітэт будовы праваслаўнай царквы у Баранавічах, на чале якога стаіць б. сэнатар Назарэўскі, атрымаў ад Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў 10.000 зал. на мэту аканчаньня пачатай ужо будовы.

— **„Sprawy Nawodowościowe"**. Год II. № 2 за красавік і травень 1928 г. Цана 5 зл. за экз. Выйшаў з друку № 2 журналу „Spraw Narodowościowych", пасьвячоны пытаньню аб нацыянальных меншасьцях у Польшчы. Зьмест наступны: Д-р Вацлаў Юноша — „Школьніцтва польскае у Нямеччыне". Віктар Любіч — „З праблемаў нац.—меншасьцёвых і арганізацыя праваслаўнай царквы у Польшчы". Ст. Чосноўскі — працяг артыкулу аб справах нац. меншасьцяў у Уніі Таварыства Лігі Народаў. Хроніка, рэцэнзыі і бібліяграфія.

— **Новыя беларускія кніжкі.** 1928 год прынёс з сабой поўнае ажыўленьне ў галіне беларускае выдавецкае працы. Гэтак у апош-

---

арганізацыяў, Скірмунд у новы склад Рады не ўвайшоў.

Але вернемся ізноў да войска, да Беларускага Вайсковага Камітэту ў Рызе, які ня быў залегалізаваны.

Што яму было рабіць: ці пакарыцца, ці вясьці працу? Не такія былі тады часы, каб маўчаць. І выходзячы ад Вайцінскага, беларуская дэлегацыя заявіла яму, што працы свае ня спыніць.

Сваё слова беларусы датрымалі. І ня толькі ў XII арміі, але і ў суседняй з ёю распачалася праца „Беларускага Вайсковага Камітэту". Рух пашыраўся са дня на дзень, і гэта змусіла ў канцы канцоў да таго, што беларускія вайсковыя арганізацыі былі змабілізаваны. Але калі?—Пасьля карнілаўскага перавароту, калі ў ва ўсей Расеі насьпевала другая рэвалюцыя, насьпявала новая катастрофа, да якой беларусы былі таксама не падгатаваны ні ідэйна, ні арганізацыйна, бо ні Ц. Рада беларускіх арганізацыяў, як раней Б. С. Г., ня меўшая выразнае праграммы, ні вайсковыя арганізацы, якія 18 кастрычніка з аднаго толькі заходняга фронту з'ехаліся ў Менску — ня здолелі падрыхтавацца да рашучага моманту і пераломү расейскае рэвалюцыі.

Вельмі характэрная дэталь, як расейскія эс-эры аднясьліся да гэтага першага вайсковага беларускага зьезду. Для зьезду патрэбна было памешканьне. Трэба было зьвярнуцца да менскага галавы, якім у той час быў эс-эр Кашчэнка. І вось, калі мы зьвярнуліся да яго з просьбаю аб памешканьні, ён нам адказаў вельмі красамоўна: — *Можете самоопределяться на улице.*

Ня гледзячы на забарону Кашчэнкі, зьезд вайсковы ўсё-ж такі адбыўся і выняс адпаведныя рэзалюцыі аб арганізацыі свайго нацыянальнага войска. Але было ўжо позна. Бальшавікі папярэдзілі развал Расеі сваім выступленьнем і здарэньні пайшлі па шляху, якога ня маглі прадбачыць тагочасныя правадыры беларускага руху.

І нарэшце, каб адзначыць характарныя адносіны Расейскіх дэмакратаў да Беларусі за часы мартаўскае рэвалюцыі, мне хочацца прывесьці яшчэ адзін факт усерасейскага значэньня.

Як ведама ў верасьні месяцы адбывалася ў Пецярбурзе (Ленінградзе) Усерасейская Дэмакратычная Нарада (Всероссійское Демократическое Совещаніе). На гэтую нараду паехалі і беларусы, як прадстаўнікі Ц. Рады беларускіх арганізацыяў.

У склад дэлегацыі ўвайшлі: Варонка, Фальскі, Душэўскі, Жылуновіч, а ад вайсковых Сабалеўскі і Я. Мамонька. Калі на гэтай нарадзе Язэп Варонка падняў пытаньне *аб аўтаноміі Беларусі*, то ўсе расейскія фракцыі *не выключаючы і камуністычнае*, паднялі голас і крыкі — *„ці ня шпіён гэта нямецкі?"*. (Гл. стэнаграму).

І так усюды. Расейскія дэмкраты і сацыялістыя ставілі перашкоды беларускім сацыялі-

нія дні з'явіліся на кнігарскіх паліцах наступныя кніжкі:

1. „Бог" — філёзофічны нарыс, напісаў д-р М. А. Выдавецтва „Хрысьціанскае Думкі" цана 95 гр. Галоўны склад: кнігарня „Пагоня" — Завальная вуліца № 7.
2. „Голас Душы" — К. Сваяка (кс. К. Стэповіча) цана 2-3 зл. залежна ад вокладкі. Купляць можна у кнігарні „Пагоня".
3. „Па рэвізіі" камэдыя у 1-эй дзеі. М. Крапіўніцкага. (перароблена з украінскага) Выдавецтва Т-ва Бел. Школы.
4. „Пашыліся ў дурні" жарцік у 3-х дзеях М. Крапіўніцкага. 23 старонкі цана 60 гр. Выд. Т-ва Беларускае Школы.
5. „Модны шляхцюк" п'еса у 1 дзеі К. Каганца. 32 стар. цана 60 гр. Выд. Т-ва Бэл. Школы
6. „Прынц і жабрак" повесьць для юнацтва Марка Твэна у перакладзе Краўцовага Макара. 215 стр. Цана 5 зл. Віленскага выдавецтва Б. Клецкіна.

# Карэспандэнцыі.

## З гісторыі Ленькоўскай беларускай пачатковай школы.

(В. Ленькоўшчына, Беліцкай гм.).

Наша вёска знаходзіцца найдалей як ад ваяводзтва, так і ад павету і ад гміны. Гэта адзін з глухіх куткоў нашай Бацькаўшчыны. Беларуская сьвядомасьць пранікла сюды ў 1921 годзе дзякуючы беларускай школе, якая была заложана вучыцелям Мікалаем Абрамчыкам. Вучыцель былае школы М. Абрамчык (родам з в. Сычовіч, Радашкоўскай гм.), ня гледзячы на непрыемнасьці з розных бакоў, вёў працу даволі энэргічна і цярпліва. Апроч школьных заняткаў днём ён па зімовых вечарох ладзіў курсы для дарослых, што было ў свой час вельмі карысным.

Школа была ў сьветлым і даволі прасторным будынку сьв. Я. Камінскага. Дзякуючы стараньням вучыцеля, ў школе перш за ўсё погляд спатыкаў вялікага разьмеру Беларускую Пагоню, аздобленую нацыянальнымі сьцягамі, поўкулі па беларуску, карту Беларусі, партрэты бел. паэтаў і інш. Апрача гэтага ў школе была і бібліатэка, якой карысталіся апрача вучняў і дарослыя.

У канцы 1922 года Мік. Абрамчык, здаўшы школу вуч. Мікалаю Чыжэўскаму, выехаў

---

стам і варожа адносіліся да справы беларускага адраджэньня. Не памылюся, калі скажу, што і цяпер гэтыя адносіны зьмяніліся мала, бо калі паглядзець, як трымала і трымаець сябе расейская дэмакратычная эміграцыя за граніцаю ў адносінах да ўкраінцаў і беларусаў, то прыдзецца да сумнае думкі, што на расейскую дэмакрацыю няма аніякае надзеі. І Мілюкоў, хоць перажыў 5—6 эвалюцыяў у сваёй тактыцы, і Кэрэнскі, і ўсе эс-эры за выключэньнем можа хіба Чэрнова, меншавікі тыпа Дана-Абрамовіча,—ўсе яны мала чаму навучыліся за апошнія дзесяць гадоў.

Вось, напрыклад, факты з палітычнага жыцьця эміграцыі. Калі Мілюкоў у 1925 г. у Празе Чэскай рабіў даклад у Народным Доме на Сыміхаве аб тым, якога будзе па яго думцы будучына Расеі, дык характарным зьяўляецца, што аб Украіне і Беларусі гаварыў вельмі мала. А калі яго запыталіся, як-жа будзе з гэтымі народамі,—дыплёматычна адказаў: „Я являюсь сторонникам федерации, но генерал какой-нибудь может подумать тогда иначе".

Што да расейскіх эс-эраў, то можна без пераўвелічаньня сказаць, што ўсе яны заўзятыя ворагі беларускага і ўкраінскага адраджэньня. Падцьвярджэньнем гэтага можа служыць хоць-бы факт дэманстрацыйнага байкоту ўсякае дыскусіі над нацыянальным пытаньню Калі, напрыклад, украінскія эс-эры Мікіта Шаповал і іншыя хацелі прымусіць іх выявіць свой твар і арганізавалі ў той-жа Празе, у 1923 г. у сацыялістычным клюбе даклады па нацыянальнаму пытаньню, то на гэтыя даклады ўкраінцаў і грузінаў ніхто з эс-эраў, за выключэньнем Чэрнова, ня прыйшоў.

Становішча меншавікоў яшчэ больш „выразнае". Найлявейшы з іх Абрамовіч, калі справа зайшла аб дапушчэньню на Міжнародны Сацыялістычны Кангрэс у Гамбургу ў 1923 г. украінцаў і беларусаў, голасна запратэставаў проціў гэтага і заявіў, што апрача іх, меншавікоў, ніхто ня мае права рэпрэзэнтаваць работніцкі рух Расеі. Пад словам Расея Абрамовіч—само сабою, — разумеў ня толькі Масковію, але і Украіну і Беларусь. Гэта сьведчыць аб тым, што меншавікі ня толькі не прызнаюць ідэі самавызначэньня Украіны і Беларусі, але і больш таго —ня прызнаюць за украінцамі і беларусамі правоў на самастойны украінскі і беларускі работніцкі рух, ня прызнаюць правоў займаць якое-колечы мейсца ў інтэрнацыянале. І проста ліцамернаю зьяўляецца заява Дана на XX кангрэсе П. П. С. у Варшаве ў пачатку 1926 году пасьля прамовы Голуўкі, што гэтая прамова зьяўляецца гварантыяй правідловае нацыянальнае палітыкі П. П. С. у будучыне. Няма чаго Дану ківаць у бок П. П. С., што яны вялі дрэнную нацыянальную палітыку, калі вы самі ў справе беларускай і украінскай стаіце на аднэй „плятформе" з кадэтамі і Кэрэнскім.

На гэтым нам хочацца скончыць з расейскаю дэмакрацыяй і яе адносінамі да ідэі беларускага адраджэньня.

на далейшыя навукі. Пры вучыцелю Чыжэўскім, школьныя заняткі праводзіліся ненармальна, з частымі перарывамі. Прычынаю гэтага, як кажуць, было тое, што Чыжэўскі быў пад наглядам паліцыі і хадзіў кожны тыдзень мэльдавацца. Пад канец школьнага году гэты вучыцель уцёк невядома куды. Нейначай як яму пагражаў суд. Гэткім парадкам нашы нядбалыя сяляне асталіся бяз роднаи школы і дагэтуль яе не маюць.

У 1924 годзе школьны інспэктар, даведаўшыся, што няма тут школы, прыслаў польскага вуч., нейкага п. Гавэнду, да якога дзеці ніяк не маглі прывыкнуць, а ні ён да дзяцей. У 1925-м годзе школа перайшла пад кіраўніцтва вуч-кі п. Пшэздзецкай, якая перанясла школу на другі год у в. Клочкава.

Чаго-ж вы цяпер чакаеце, сяляне Ленькаўшчыны і іншых вёсак? Ці мо' ізноў чакаеце, каб хто залажыў вам родную школу, як гэта зрабіў калісь Абрамчык? Не можа быць болей гэтага, ня будзе і трэба нам самім дамагацца роднай школы. Пастарайцеся ў сёлетнім годзе злажыць дэкляряцыі школьнаму інспэктару аб дазволе на адчыненьне роднай школы!

Цецярук.

### Да чаго даводзіць пьянства.

(Маладэчаншчына).

На першы дзень каталіцкай сёмухі ў фольварку Маркава, гм. Лебедзеўскай, на сажалцы ўтапілаея трох дзяўчат, служачых у гэтым фольварку. Утопленіцы, ўжыўшы алькаголю, захацелі пакатацца на чоўне і вядома, як былі пад „мухай“, то хістаючыся перакінулі човен і пашлі на дно, ня ўмеючы плаваць. Хоць сажалка была не глыбокая (па пояс), але дно балоцістае, дык усе тры пайшлі на дно і разам пацягнулі і сабаку.

Вось да чаго даводзіць пьянства!

Кветка.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як палепшыць сенажаці.

Калі прыглядзецца да нашае гаспадаркі, дык з сумам прыходзіцца прызнацца, што „дапатопныя“ спосабы цалком пануюць тут. Усё наладжанае дзядамі і бацькамі перадаецца патомству, якое трымаецца гэтага старага, як традыцыі. Паглядзімо на нашы сенажаці, гэтае дойнае каровы ў гаспадарцы. Прафэсар Kühn з Галі, добра знаёмы з сельскай гаспадаркай, кожны раз пры гутарцы пра сенажаць пачынаў са слоў: *„Есьць трава — ёсьць малако і гной, ёсьць гной — ёсьць хлеб і грошы.*

Колькі-ж мы маем добрых сенажацяў?

Сенажацяў у нас ёсьць даволі, але добрых вельмі і вельмі мала. Усе яны па прыроднай якасьці не такія ўжо дрэнныя, каб на іх не зьвяртаць увагі. Даволі толькі прылажыць троху працы, розуму, каб адсунуць тыя прычыны, якія выклікалі іх зьдзічэньне, як хутка можна будзе ўбачыць вынікі нашае працы.

Сенажаці ў нас дрэнныя галоўным чынам ад двух прычын: ад недастачы ў грунце вады (травы для свайго ўзросту патрабуюць шмат больш вады, чым палявыя расьліны), ці ад лішку яе. Бяручыся за паляпшэньне сваіх лугоў, гаспадар і павінен павясьці сваю працу ў гэтым кірунку, каб перш адсунуць гэтыя галоўныя прычыны і даць магчымасьць расьліне лепш выкарыстаць як прыроднае багацце грунту, гэтак і ўнесенае ўгнаеньне.

У гэтым нарысе перш мы разгледзім, як палепшыць сенажаці, якія не патрабуюць асушкі, дзеля чаго іх трэба і перш нам прывадзіць у культурнае становішча.

*Сухія лугі*, на якіх расьцецы толькі мох ды другія не спажыўныя расьліны, часта бывае карыстным абярнуць іх у ральлю. Калі гэтага па якіх-небудзь меркаваньнях зрабіць нельга, дык на такім куску лепш залажыць штучны луг. Першая работа тут пачынаецца з ачышчэньня сенажаці ад кустоў і купін. Зрабіўшы гэту работу, луг трэба яшчэ ачысьціць ад моху і ўспульхніць залежаны і ўтоптаны верхні слой зямлі, чым мы дамо магчымасьць паветру, цяплу і спажыўнай матэрыі пранікнуць да карэньняў лепшых луговых траў і падняць іх жыцьця дзейнасьць. Гэтага можна дасягнуць баранаваньнем спэцыяльнымі лугавымі баронамі, а калі іх няма і цяжка дастаць—дык звычайнымі цяжкімі баранамі з вострымі жалезнымі зубамі. Першае забаранаваньне робіцца ў восень і сенажаць барануецца да чорна. Выбаранаваны мох складаецца ў кучкі і, як прасохнець, паліцца ці звозіцца дамоў на падсьцілку ў хлявы. Попел-жа ад моху роўна раскідваецца па лугу. З мінэральных угнаеньняў уносяць тамасоўку кала 20 пуд. на дзесяціну, патасовую 30 проц. соль каля 10 пуд. і луг ізноў барануюць, каб парашкі зьмяшаць з зямлёй. Вясной, як толькі луг абсохнець, яго яшчэ раз барануюць, засяваюць лугавымі травамі і прыкатваюць калодай (катком).

Але бываюць выпадкі, што сенажаць так адзічала, зямля на ёй так зьляпілася, што апісанымі мерапріемствамі паляпшэньня значнага дасягнуць не ўдаецца. Тады гэткую сенажаць прыходзіцца тымчасова абярнуць пад ральлю і гадоў праз 4—6 засяваюць луговымі травамі. Паднімаюць дзяарніну на такой сенажаці не пазьней жніўня м-ца на глыбіню $1^1/_2$—2 вярш. У восень, добра выбаранаваўшы дзярніну, сенажаць аруць на поўную глыбіню. У першы год гэтая сенажаць ідзе пад культуру лёну, пасьля здыму якога дзярніну адварачваюць і пакідаюць пад авёс. На трэці год, калі

зямля ня вельмі цяжкая, можна садзіць бульбу, унесшы перад гэтым патасовай солі з разлікам каля 15—20 пуд. на дзесяціну. На чацьвёрты год сеюць авёс з пасевам траў і астаўляюць гэты кусок пад штучны луг. Перад пасевам траў трэба абавязкова ўнясьці мінэральнага ўгнаеньня, бо ў праціўным выпадку ўся праца гаспадара і выдаткі на паляпшэньне сенажаці не дасягнуць сваей мэты. Без ўгнаеньня сенажаці палепшыць яе ніколі не ўдаецца, бо папярэднімі пакосамі мы лугі сваe настолькі спусташалі, што на іх ня можа расьці культурная трава.

## Балотністыя сенажаці.

Калі з сухімі сенажацямі, якія прышлі ад недбаласьці гаспадара ў дзікі стан, каб іх палепшыць — работа ня вельмі складная, дык гэтага нельга сказаць пра мокрыя сенажаці. Агульна прызнаных правіл для паляпшэньня балотністых сенажацяў няма, ды і балоты па натуры сваей бываюць розныя.

Галоўнымі недахопамі мокрых сенажацяў зьяўляецца лішка вады і брак пажыўных сокаў для расьлін, ад чаго на мокрых сенажацях растуць дрэнныя балотныя травы, часта ня маючыя ніякай сельска-гаспадарчай вартасьці.

У культурна-заходніх краінах, асабліва у Нямеччыне, у скарыстаньні балот дасягнулі значных вынікаў, дзе працаю над балотамі кіруюць балотныя дасьледчыя станцыі. У Заходняй Беларусі гэтакай станцыі няма, а данымі Менскай балотнай станцыі нам, нажаль, карыстацца амаль-што немагчыма, ня гледзячы на тое, што гэта станцыя ў апошнія часы шырока разьвіла сваю працу над вывучэньнем спосабаў паляпшэньня мокрых сенажацяў, у чым ей удалося дасягнуць значных вынікаў.

Якое-б ня было балота, будзь гэта асаковае, тарфяное, ці пераходнае, для якіх-бы мэтаў гаспадар ня думаў балота ўжываць: пад палявыя расьліны, сенажаць, выган для скаціны, або для карыстаньня торфам як апалам ці ўгнаеньнем — усялякую працу пачынаюць перш з асушкі. Ад правільнага выкананьня асушкі балот залежыць пасьпех працы. Пры асушцы трэба мяркавацца: для якой мэты гаспадар думае ўжыць балота. Калі яно мае быць ужывана для палявых расьлін, балота трэба асушыць глыбей, а для сенажацяў узровень грунтовых вод зьніжаюць менш глыбока. Зьніжэньне грунтавых вод пад выган трэба рабіць глыбей, чым пад сенажаць, і мялей, чым пад палявыя расьліны. Зьніжэньне грунтовых водаў рэгулюецца глыбінёй канаваў і іх адлегласьцяй аднэй ад другой.

Асушваюць мокрыя сенажаці двума спосабамі: адкрытымі равамі і закрытымі. Апошні мае перавагу перад першым дзеля таго, што эканоміць плошчу зямлі, усоўвае перашкоды ў часе працы на сенажаці і патрабуе менш рамонту.

Каб асушыць вялікія абшары балота, перш трэба зрабіць плян асушкі яго, што вымагае спэцыяльнасьці інжынера. У праціўным выпадку ўся праца і кошт гаспадара можа даць яму адну страту. На малых кавалках часта можна пачынаць асушку і самому, калі гаспадар добра ўявіць сабе, дзе капаць равы, якой глыбіні, на якую адлегласьць праводзіць канавы, для якой мэты асушка робіцца і г. д.

Пры асушцы перш праводзяць галоўную канаву, якая мусіць быць пакіравана ў натуральнае водазборышча (возера, рака), а потым капаць бакавыя канавы. Галоўную канаву праводзяць па самаму нізкаму месцу, для пазнаньня чаго служаць розныя спосабы. Здараецца, што калі праз балота цякла рэчка, якая ўжо зарасла травою, дык галоўную канаву трэба вясьці па яе рэчышчу, дзе большы нахіл. Для гэтай-жа мэты карыстаюцца і вясновым разводзьдзем і дзе больш зьбіраецца вады, кірунак стоку яе і паказвае месца для галоўнай канавы. Калі тут яшчэ гаспадар паруніцца азначыць усе выкруты стоку вясновай вады, дык яму лёгка будзе выбраць і правільны кірунак галоўнай канавы. Гэтыя канавы заўсёды капаюцца адкрытымі, глыбей і шырэй баковых.

Капаньне канаваў лепш расьцягнуць па два—тры гады, каб балота асядала паступова.

Часта бывае неабходнасьць у сухі год падняць узровень грунту водаў,—тады робяць застаўкі. Застаўкі большаю часцью робяцца толькі па галоўных канавах, ад чаго грунтовая вада падымаецца ва ўсіх баковых канавах і разходзіцца па ўсей плошчы асушанай сенажаці.

Пасеў травы або расьлін трэба пачынаць толькі тады, калі верхні слой сенажаці будзе добра выраблен воркай і выраўнен. Раўнаваньнем асушанай сенажаці патрэбна дзеля таго, каб мець аднолькавую вогкасьць (вільгаць), бо лішне сырая зямля будзе шкодзіць узросту траваў.

Якія травы сеяць на сенажаці, дык для гэтага гаспадару лепш зьвярнуцца за парадай да аграномa. Пры састаўленьні мешаніны траў тут трэба мець на ўвазе, каб знаходзіліся травы, якія-б маглі расьці на той зямлі, дзе яны будуць высеяны, каб яны маглі расьці пры нашых кліматычных умовах, каб тут былі як нізовыя, гэтак верхавыя травы і г. д. Як прыклад прыводзім наступную мешаніну кармавых траў для розных грунтаў. (Вага паказана ў кілёграмах; 1 кл. = $2^1/_2$ ф.. Гл. табліцу ніжэй).

Пасьвіць жывёлу на засеяных травах можна толькі на другі год, тыдні праз два пасьля скосу і ні ў якім разе ня трэба пускаць з вясны, ці позна ў восень, як луг вельмі мокры і топкі. Пачынаючы з трэцяга году кожную вясну або восень неабходна сенажаць баранаваць. Адначасна з баранаваньнем можна ўнасіць і ўгнаеньне, каб пазбавіцца высіленьня (спусташаньня) зямлі. На ўгноеных сенажацях ня толькі павялічваецца ўкос травы, але і значна паляпшаецца якасьць сена добрымі лугавымі травамі, якія на высіленых землях расьці ня могуць.

| НАЗОЎ ТРАВАЎ | Для сухіх грунтаў (сухадольле) | Для вільготных грунтаў (даліны і нізкія сенажаці) | Для заліўных сенаж. з пяшчаным грунтам |
|---|---|---|---|
| Канюшына чырвоная | 2,4 | 1,6 | — |
| „ швэцкая | 3,2 | 2,4 | 4,0 |
| „ белая | 1,2 | 1,2 | — |
| Цімафейка | 6,0 | 6,0 | 4,8 |
| Жытнік бязвусы | 8,0 | 4,0 | 16,0 |
| Мурожніца луговая | 4,8 | 5,6 | 6,0 |
| „ чырвоная | — | 2,4 | — |
| Мятлік луговы | 3,2 | 3,2 | — |
| Купкоўка | 3,2 | 3,2 | — |
| Лісахвост | — | 3,2 | — |
| Палявіна белая | — | 1,6 | — |
| Пырнік | — | — | 8,0 |
| Усяго на дзес. | 32,0 | 34,4 | 38,8 |

Пасьля таго, як палепшана сенажаць і на ёй пачала расьці новая і добрая трава, трэба з належнай увагай клапаціцца аб далейшым доглядзе за ёю. *Толькі пры добрым даглядзе можна прымусіць сенажаць даваць што год высокі ўраджай травы і разрашыць вострае кармавое пытаньне на Беларусі.*

*Лугавод.*

## Як пазнаць, ці будзе з цялёнка добрая карова.

Па цяляці можна пазнаць, ці будзе з яго добрая карова. Перш за ўсё касьцяк не павінен быць грубы, галава павінна быць вузкай, ногі тонкія.

У добрага цяляці на ілбе паміж рагамі шэрсьць робіць віхор, бо шэрсьць з аднаго боку ідзе зьверху ўніз і на перавале спатыкае шэрсьць, якая ідзе зьнізу ўверх. Чым больш гэта заметна і чым бліжэй гэты смык да простай лініі паміж вачэй, тым лепш. Гэта адна з галоўных адзнак малочнасьці.

Вушы павінны прапускаць сьвятло чырванаватай водценьню. Шыя павінна быць вузкая, але ня худая. Плячо таксама мусі быць вузкім, але не выпіраць вострым канцом над сьпіной. Грудзі не павінны быць вельмі шырокімі, а крыж трэба каб быў шырокі.

Шкура мусіць быць тонкай, лёгка адцягвацца ў адзін і другі бок, а таксама ўверх. Галодныя ямкі павінны быць глыбокія, бо такая карова будзе шмат есьці і добра даваць малака.

Крыж чым большы, тым лепш. Апроч таго, ён павінен выцягвацца далёка назад, бо пад гэтай часткай таза павінна будзе вырасьці вымя і адпавядаць яму ў шырыню і даўжыню. Хвост тонкі і доўгі. Калі яшчэ ў цяляці па ніжняй унутранай частцы задніх ног зьявяцца шырокія, моцныя і мясістыя наросты, дык з такога цяляці будзе малочная карова; а калі наросты будуць круглыя, дык малака ад такога цяляці (каровы) будзе мала.

Калі вымя вырасла, дык яно павінна быць цьвёрдым, гладкім і бліскучым. Вялікае, шырокае чатырох кантовае вымя — лепшая адзнака малочнасьці і наадварот — маршчыністае, вялае вымя дае мала надзеі на малочнасьць. Калі цяля мае рогі, дык і па іх можна судзіць аб малочнасьці. Рогі растуць ад касьці і павінны быць гладкімі і бліскучымі, як шкура. Даўжыня рагоў і іх пасадка вагі ня маюць. Лобная костка паміж рагамі павінна быць гладкай і роўнай. Калі яна ня роўная, дык лепш няхай будзе выпуклая, чым упалая, бо ўпалы лоб — дрэнная адзнака.

## Юрыдычныя парады.

**К. Гр.—лю** ЗАПЫТАНЬНЕ: Бацькі памёрлі ў 1898 г. Засталіся сіраты 2 сястры. Старшая выйшла замуж у 1906 г. і карысталася зямлёй да сусьветнай вайны. Меншая выйшла замуж у 1912 г. з дому старшай сястры. Пасьля таго, як у 1914 г. аўдавела—жыла пры старшай сястрэ, і ў гэтым годзе заўладала ўсей зямлёй, якой карыстаецца і сяньня. Ці можа старшая сястра адабраць хоць часьць бацькаўшчыны і як?

АДКАЗ: Дзеля таго, што абедзьве сястры жылі да 17 г. на зямлі разам — ніводная з іх ані ўтраціла сваіх правоў, ані набыла нейкія асобныя перад другой. Абедзьве маюць аднолькавае і роўнае права, г. ё. зямля павінна належыць абедзьвюм папалам. Хай старшая зьвернецца да Суду з просьбай адабраць ад малодшай палову маемасьці і перадаць ей.

## Першыя беларускія матурысты,

У чэрвені абітур'енты з Віленскай і Наваградзкай беларускіх гім-назіяў злажылі ў Вільні матуральныя экзамены прад вызначанай праз Віленскі Куратарыум спэцыяльнай камісіяй пад кіраўніцтвам праф. Масоньюса. Урадовая матура для беларускіх гімназыяў ёсьць вынікам колькігодніх стараньняў беларускага грамадзянства, якія ўсьцяж былі трактаваны адмоўна. Сёлета-ж польская ўлада пайшла на спатканьне дамаганьням беларускага народу, якія часткова ўжо асягнуты.

Цяпер застаецца толькі пажадаць, каб гэты факт вызначэньня экзамінацыйнае Камісіі для дзьвюх беларускіх гімназыяў — быў першым крокам да здаваляньня Польскаю ўладаю і далейшых дамаганьняў беларускага народу ў гэтым кірунку. За гэтым у першы мамэнт павінна наступіць прызнаньне правоў публічнасьці ўсім істнуючым беларускім гімназіям і адчыненьне дзвярэй вышэйшых польскіх учэльняў для іх выхаванцаў.

З 12 вучняў беларускіх гімназіяў атрымалі матуру 10 чалавек. Між іншымі з Наваградзкай гімназіі атрымалі матуру вучні: Даманскі, Вэрбіцкі і Чатырка.

**Гр. Ал. Д.—вічу.** ЗАПЫТАНЬНЕ: У бацькі было нас двое: я і брат мой. У 1926 г. я выйшла замуж за малазямельнага. Бацька даў мне толькі адну карову, бо маніўся ўзяць мяне з мужам да сябе на гаспадарку. Аднак, ня хочучы спрэчак з сынам — адкладваў гэта. У 1928 г. бацька памёр. Цяпер брат ня хоча мне нічога даваць. Ці магу я атрымаць што і як?

АДКАЗ: Дзеля таго, што бацька памёр пасьля 1923 году — Вы маеце з братам аднолькавыя правы на маемасьць, якая засталася пасьля бацькі, гэта значыць уся маемасьць павінна быць падзелена напапалам. Дзеля гэтага зьвярніцеся ў Суд з позьбай проці брата і прасіце зацьвердзіць Вас у правох насьледзтва да маемасьці, застаўшайся пасьля сьмерці бацькі ў $1/2$ часьці, адабраць гэтую палову ад брата, які прысвайвае сабе ўсё і перадаць яе Вам на ўласнасьць. Да прашэньня трэба далучыць мэтрыку сьмерці бацькі.

## УСЯЧЫНА

### Прадажа турмаў.

Высокая культура англічанаў давяла да таго, што кары за рожныя праступленьні ў Англіі значна палегчаны, што ў сваю чаргу прычынілася да значнага паменшаньня праступленьняў у апошні час, ня гледзячы на агульную павялічанасьць праступнасьці ў пасьляваенны час. Дзякуючы гэтаму апарожнілася шмат вастрожных будынкаў. Англійскі ўрад рашыў прадаць 20 вастрогаў. Але ня гледзячы на шырокую рэкляму не знаходзіцца жадаючых купіць гэтыя будынкі, якія былі сьведкамі бязлікіх людзкіх цярпеньняў.

## Навука і тэхніка.

### Аўтаматы.

У адным з папэрэдніх нумараў мы падавалі, што ў Амэрыцы, гэтым краі матар'яльнага багацьця і ўсялякіх навучных адкрыцьцяў, выдумалі чалавека-аўтамата, які выконвае некатарыя чыннасьці, як жывы чалавек. Цяпер надходзяць з Амэрыкі новыя весткі, сьцьвярджаючыя, што гэта ня ёсьць міф. Ласьне нью-ёрская фірма пішучых машынаў Рэмінгтон збудавала гэткага чалавека-аўтамата, які можа абслугоўваць кліентаў у магазыне і нават паўтараць цэлыя выразы, заступаючы жывога чалавека. Фірма гэта быццам мае замяр заснаваць акцыйнае таварыства з закладовым капіталам у суме 25 міл. доляраў для прадукцыі ў масавым ліку гэтых аўтаматаў, якія павінны ў рожных выпадках заступіць жывых людзей.

Над гэтым фактам застаецца паважна застанавіцца ня з боку поступу навукі і тэхнікі, а яго ўплыву на сацыяльнае становішча чалавецтва. У той час, як бязупынная канкурэнцыя з аднаго боку і ўзрост тэхнікі з другога давялі да таго, што ў самых прамысловых дзяржавах, як Англія, Нямеччына, Амэрыка, Італія і інш., вытварыліся мільённыя арміі безработных, якія з кожным годам не зьмяншаюцца, а павялічваюцца, — аднačасова ідзе праца ў разьвіцьці ўсялякага роду аўтаматаў, якія замяняюць сабою жывых людзей і гэтым самым яшчэ больш павялічваюць безрабоцьце.

Каму ня ведамы аўтаматы на чугункавых станцыях, якія за ўкінутыя 10-20 грошаў падаюць білеты для ўходу на пэрон? Каму ня ведамы аўтаматы-рэстарацыі ў вялікшых местах? Заходзіш да гэткай рэстарацыі і бачыш толькі госьцяў за столікамі і касіра, які вымяньвае грошы на патрэбныя манэты, і ніводнага лёкая, апрача таго, хто ўбірае начыньне. Падыходзіш да крана з півам, апушчаеш, напрыклад, у дзірачку 20 гр., падстаўляеш шклянку наліваецца табе піва. Апушчаеш у іншым мейсцы 50 гр. і атрымліваеш на талерцы закуску і г. д. Аўтаматы-рэстарацыі карыстаюцца надзвычайным пасьпехам дзеля таго, што ня трэба плаціць абслузе „на чай".

У мінуўшым годзе расейскі інжэнэр гэтак сама выдумаў у Амэрыцы аўтамат-фатаграфічны апарат, за што атрымаў мільён даляраў. Гэткія аўтаматы стаяць на вуліцах. Трэба толькі застанавіцца перад ім, як перад люстэркам, апусьціць у шчэлку пэўную манэту і раптоўна атрымліваеш гатовую фатаграфію якой жадаеш вялікасьці і якасьці. І можна сабе ўвабразіць, колькіх фатографаў пазбавіць працы гэты аўтамат, які гэтак сама будзе мець надзвычайны пасьпех дзякуючы таму, што раптоўна выконвае заказ і значна таней, чым жывыя фатографы.

Наагул аўтаматы цяпер знаходзяць вельмі вялікі ўжытак дзякуючы таму, што таней вы-

конваюць свае чыннасьці і больш сумленна, чым жывыя людзі. Аўтамат ня ўкрадзе, не абманіць, не нап'ецца, як чалавек, ня зробіць нікому прыкрасьці, не забастуе, можа працаваць круглыя 24 гадзіны. Яго ня трэба ні карміць, ні адзяваць... Для свайго гаспадара гэта найлепшы працаўнік.

Але што будзе, калі гэтых аўтаматаў развядзецца шмат? Калі ў кожным месцы зьявяцца аўтаматы-фатаграфы, аўтаматы-рэстарацыі, аўтаматы-прыказчыкі ў магазынах, аўтаматы-працаўнікі на фабрыках, наглядаючыя за працаю машынаў і г. д.?

Можна сабе ўвабразіць гэткую аўтаматычную фабрыку! Прыйшоў галоўны інжэнэр ці тэхнік, пусьціў у рух машыну, націснуўшы электрычную кнопку і фабрыка бяз жывых людзей будзе вытвараць тавар, які пры ручной вытворчасьці патрэбаваў-бы тысячы рабочых.

А ў гэты час безрабоцьце расьце і расьце, пагражаючы тэй-жа навуцы і тэхніцы...

Дык, нарэшце, невядома, ці вядзе да агульнага дабрабыту чалавецтва навука пасьля пэўнае свае вышыні. Як гэта не здаецца парадаксальным, але гэта ёсьць так. Чалавек уласнымі рукамі вытварае канкурэнтаў—аўтаматаў дзеля таго, каб самаму-ж застацца бяз працы і хлеба...

## Кут ок жартаў і сьмеху

### У судзе.

С у д з ь д з я д а а б в і н а в а ч а н а г а: Ты абвінавачаны затое, што украў хустачку. Што скажаш па апраўданьне?

А б в і н а в а ч а н ы: Бо ў мяне ў той час быў надта дужы катар...

### У царкоўнай канцэлярыі.

П с а л о м ш ч ы к: Скажы мне, калі ласка, чаму ты яго прывяла такога п'янага?

Д з я ў ч ы н а: Хацела бы даць на запаведзі.

П с а л о м ш ч ы к: Добра; але калі-ж ён дужа п'яны.

Д з я ў ч ы н а: Бо як-бы ён быў цьвярозы, дык са мною не пайшоў-бы.

### Ад малога зачынаецца.

— А ведаеш? Нашы суседзі маюць малога..

— Так, так! Ад малога зачынаецца...

### Шчырасьць.

Ж о н к а. Ты зноў варочаешся з карчмы.

М у ж. Уласьне, бо ня буду-ж я там заўсёды заставацца.

### Аўраам у нябясьпецы.

Муж пралівае сьлёзы над труною памёршай жонкі. Прыяцель уцяшае яго. „Успакойся, твая жонка ўжо шчасьлівая, спачывае на лоне Аўраама"!

— Ласьне я і плачу над бедным Аўраамам, бо мая жонка можа выдрапаць яму вочы...

## Паштовая скрынка.

**Д Дубіна.** Газэта Вам высылаецца. Калі не атрымліваеце, дык даведайцеся на пошце. Гэта ня наша віна, што Вы не атрымліваеце.

**„Пяро.** Новых кніг пакуль няма. Карыстайцеся тымі, якія маеце. Адказ на Ваша запытаньне дадзім у наступным нумары.

**Ю Сергіевіч.** Газэта высылаецца. Матэр'ял будзе выкарыстаны ў наступных нумярох.

**В. Козак, Я. Дземенік.** — газэта высылаецца.

## К сьмерці Э. Войніловіча.

16 чэрвеня ў Быгдошчы, у поўным убожастве і запомненьні, удалі ад сваей роднай зямлі памёр на 80 г. жыцьця вялікі краёвы патрыёт, палітычна-грамадзкі і культурна-асьвятовы дзеяч Эдуард Войніловіч.

Хто ня ведаў у Меншчыне аб Войніловічу, які, ня гледзячы на сваё магнацкае паходжаньне, адносіўся да ўсіх аднальковa ласкава, па хрысьціянскі,—як да заможных і роўных сабе, гэтак і да бедных беларускіх сялян, з якімі толькі меў стычнасьць. На ўласны кошт выбудаваў касьцёл у Менску на Захар'еўскай вуліцы, быў старшынёю Польскага Кола у „Государственной Думе", доўгі час старшынёю Ральнічага Т-ва ў Менску, з яго ініцыятывы былі заснаваны Сындыкат Ральнічы, Т-ва Ўзаемнага Крэдыту, Т-ва городзской скатабойні, У Слуцку на ўласны кошт выбудаваў Гандлёвую школу, утрымліваў інтэрнат для 60 гімназістаў і г. д.

У 1920 г., ратуючыся ад бальшавізму, на простым возе з жонкаю, згубіўшы ў жыцьці адзіных любімых дзяцей—сына і дачку, выехаў з роднага насеженага кутка да адраджонай Польшчы.

Пакойны быў блізкім прыяцелям Романа Скірмунта, іграўшага паважную ролю ў адраджэнскім беларускім руху.

З пакойным адыйшоў на той сьвет запраўды хрысьціянін і чалавек, які пазаставіў аб сабе найлепшую памяць сярод усіх, хто толькі яго ведаў і зачым небудзь да яго зварачваўся, бо ў пакойнага ня было розьліччa між „элінамі і іудэямі"...

Дык няхай яго праху будзе пухам зямелька!

*Т. Вернікоўскі.*
Б. сябра Менскага Ральнічага Т-ва.

---

**Ст. Грынкевічу.** — Познань — на новы адрэс будзем высылаць.

**Л Кійзіку** — пав. Пастаўскі — „Беларускі Радны" будзе высылацца.

**Мотошко, М Шыбка, Я. Дземяніку газэты высылаем.**

**А. Мікірэй.** 10 зл. за карэспандэнцыю Вам выслалі, Пішыце больш.

**П. Асіповіч.** 10 зл. у лік належнасьці за карэспандэнцыі выслалі.

**К Маеўскі.** Ліст Ваш атрымалі. На Лідзкі гурток „Прасьветы" будзе высылацца 5 экз. „Грамадзяніна" па новаму адрэсу

**Я Купрыновіч.** Карэспандэнцыі атрымалі. Што надаецца — будзе выкарыстана. Газэта высылаецца па новаму адрэсу.

**С. Белайц.** Апавяданьне атрымалі, але будзе зьмешчана ў адным з наступных нумароў. Прасімыя газэты будуць высланы.

**М. Маліноўскі.** Апавяданьне атрымалі.

**К. Грытэль.** Ваша карэспандэнцыя ня была зьмешчана дзеля таго, што вельмі ня выразна напісана.

**Ю Сергіевіч.** Увесь прысланы Вамі матэр'ял будзе выкарыстаны.

**В Моклы.** Ці варта было аб такіх драбязках пісаць у карэспандэнцый? Няўжо німа нічога больш паважнага?

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1